# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Аўторак, 12 красавіка 1994 года | № 3 9 (10739) | Цана 80 руб.


ФАКТЫ ● ПАДЗЕІ
АРГУМЕНТЫ ● МЕРКАВАННІ

## ВОДПУСК НЕ ПА СВАЙМУ ЖАДАННЮ

**На цэлы месяц спынена вытворчасць жодзінскай арэнднай прамыслова-гандлёвай фірмы "Світанак". Работнікі гэтага прадпрыемства вымушаны пайсці ў месячны адпачынак.**

— Жыццёвыя рэаліі вымусілі нас спыніць на месяц вытворчасць і адправіць сваіх работніц у часткова аплатны водпуск, — тлумачыць дырэктар фірмы Мікалай Міронаў. — Прычына даволі празаічная: скончыліся запасы сыравіны. Мы заключылі дагаворы на яе пастаўку з прадпрыемствамі Яраслаўля, Падмаскоўя і некаторых іншых рэгіёнаў Расіі. Аднак пакуль нам яе ніхто не дае, бо не маем расійскіх грошай для разліку. Часткова вядзём бартэрны абмен сваёй прадукцыі, але гэта не вырашае нашу праблему. Для поўнай загрузкі абсталявання на суткі нам патрэбна каля 27 тон пражы, а ў сакавіку адзін кілаграм яе каштаваў 22,5 тысячы расійскіх рублёў. Няцяжка падлічыць, што месячны расход сыравіны выліваецца ў дзесяткі мільярдаў рублёў. Паедзем у Расію дамаўляцца аб пастаўцы пражы ў абмен на патрэбныя расіянам тавары, якія выробляюцца ў нашай рэспубліцы.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

## КАМУ — БЯДА, КАМУ — ХАРОМЫ

**Мінскай прыродаахоўнай пракуратурай у мінулым годзе быў праведзены шэраг агульнанадзорных праверак аб"ектаў, якія ўзводзяцца ў вобласці па "чарнобыльскай" праграме. Выяўлена шмат парушэнняў існуючага заканадаўства.**

У выніку пяць службовых асоб прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці. Чатырнаццаць — добраахвотна кампенсавалі ўрон у суме больш за 610 тысяч рублёў. А ўсяго па патрабаванню пракурора ў дзяржаўны бюджэт было спагнана амаль 13 мільёнаў рублёў.

На ВКА «Спецрамбудмантаж», маладзечанскія ПМК-213 і БУ-169, Уздзенскую ПМК-216, якія ў 1993 годзе дапусцілі завышэнне аб"ёмаў і кошту работ на «чарнобыльскіх» аб"ектах, накладзены штрафы. Імі ў дзяржаўную казну выплачана 2,5 мільёна рублёў.

— Пад «чарнобыльскую» праграму выдаюцца дзяржаўныя грошы, — заўважыў мінскі прыродаахоўны пракурор В.Дземідовіч. — І расходавацца яны павінны строга па прызначэнню. На жаль, пад гэтую марку мясцовыя кіраўнікі часта «гоняць» катэджы для сябе. Такія факты ў вобласці ёсць. Акрамя таго, што разбазарваюцца дзяржаўныя грошы, — не да твару нажывацца на агульнанароднай бядзе.

Вынікі праверак паказалі мэтазгоднасць правядзення іх у далейшым.

*/Наш кар./.*

## ПАПРАЦАВАЛІ? МОЖНА АДПАЧЫЦЬ...

**Аб тых гадах, калі радавых працаўнікоў нават угаворвалі паехаць у санаторый ці дом адпачынку ды папраўіць сваё здароўе, застаюцца толькі ўспаміны.**

Цяпер цяжка атрымаць пуцёўку нават таму, хто ў ёй мае самую вострую патрэбу. Тым не менш, Уздзенскі райком прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу імкнецца і ў гэтых умовах дапамагаць людзям.

Сёлета ўжо атрыманы 74 пуцёўкі ў санаторыі і дамы адпачынку. З гэтай колькасці 24 — у дзіцячыя санаторыі «Пралеска», «Сонейка», «Случ», прычым бясплатныя. У дамы адпачынку ў асноўным накіроўваліся дзеці-сіроты, якія вучацца ў ПТВ-210. Дзве пуцёўкі для маці з дзецьмі коштам 2 мільёны 84 тысячы рублёў кожная атрымалі працаўнікі эксперыментальнай базы імя Катоўскага і саўгаса «Гарадок». Прычым яны плаціць за іх не будуць.

Адпачывалі ў першым квартале даярка калгаса «Памяць Леніна» Е.А.Смусёнак, тэхнік-асемянатар Р.М.Вярбіцкая і даярка Н.А.Зыблюк з калгаса «Усход», а таксама пяць працаўнікоў саўгаса «Гарадок», тры — калгаса «Новае жыццё» і два — калгаса «Уздзенскі».

Пяць пуцёвак на другі квартал выкупіў саўгас-камбінат «Белая Русь». Не скупіцца на грашовыя сродкі для аздараўлення сваіх рабочых і эксперыментальная база імя Суворава.

— Пад асаблівай увагай у нас дзеці ліквідатараў і перасяленцы з чарнобыльскай зоны, — заўважыла галоўны бухгалтар райкома прафсаюза работнікаў АПК Р.І.Маслава. — У другім квартале на саўгас «Гарадок» выдзяляецца, напрыклад, сем пуцёвак, калгас «Уздзенскі» — тры. Кошт кожнай — 1 мільён 200 тысяч рублёў.

*Іван БАРТОШ.*
*Уздзенскі раён.*

## "КАСІЎ ЯСЬ КАНЮШЫНУ" — У ГЕРМАНІІ

**15 красавіка з калгаса імя Кірава Слуцкага раёна адправіцца ў далёкую дарогу шыкоўны аўтобус. Павязе ён у Германію ўдзельнікаў народнага фальклорнага калектыву "Ячаўскія вячоркі", куды іх запрасілі на дзесяць дзён.**

Самадзейныя артысты Случчыны нярэдка выступаюць за мяжой. А вось каб такога гонару ўдастоіўся звычайны брыгадны клуб — гэта ўпершыню. Установа культуры тут туліцца ў самай звычайнай хатцы. Можна мець высозныя харомы, але ў іх рэдка-рэдка пілікае гармонік ці хтосьці, нібы саромеючыся, праспявае песню. Галоўнае — хто ўзначальвае культасветустанову: ініцыятыўны, думаючы работнік — поспех забяспечаны. У вёсцы Ячава менавіта такія працуюць людзі. Кіраўнік "вячорак" Людміла Калядка вопытны спецыяліст сваёй справы. На ляту падхоплівае любую мелодыю і акампаніятар Уладзімір Сушко — былы выпускнік Маладзечанскага музычнага вучылішча. Гэтаму калектыву больш за 10 гадоў. Самадзейныя артысты былі на гастролях ва Узбекістане, на Украіне, на чарзе, як ужо адзначалася, — Германія. Дарэчы, толькі за транспартныя паслугі калгас пералічыў каля шасці мільёнаў рублёў. Прыемна ўсведамляць, што нават у такі складаны час кіраўнікі гаспадаркі знаходзяць сродкі, каб падтрымаць мастацкія калектывы, стварыць ім умовы для развіцця сваіх здольнасцей. А спявачкі тут сапраўды таленавітыя. Сваё майстэрства перад немцамі прадэманструюць Зінаіда Чухонская, Серафіма Светаш, Валянціна Варывончык, Ніна Троцкая, Раіса Калядка, яе сястра Святлана і інш.

У гастрольным рэпертуары "Ячаўскіх вячорак" песні розныя — ад "Касіў Ясь канюшыну" да самых сучасных.

*Уладзімір КОБРЫН.*

■ Актуальное интервью

### Генерал-полковник П.КОЗЛОВСКИЙ:

## "БЕЗ ПАТРИОТОВ НЕТ АРМИИ"

**— Павел Павлович, многое сегодня можно услышать о Вооруженных Силах Республики Беларусь. Что скажете вы о них как министр обороны?**

— Да, разговоров немало. Вступают в полемику, рассуждают об армии порой те, кто не имеет даже элементарного понятия о военном строительстве. Но никому не возбраняется высказываться.

Я прекрасно понимаю чувства тех, кто в запасе, понимаю ветеранов. Все они болезненно воспринимают те процессы, которые происходили и которые происходят сегодня. Были единые ВС, единый Советский Союз. Не по нашей воле, а по воле политиков так получилось.

18 марта 1992 года Верховный Совет Республики Беларусь принял решение о создании собственных ВС. Это решение стало исторически объективным. За два года они многое претерпели и пережили вместе со своим народом. Этот процесс пока продолжается. Все беды и сложности армейские — от тяжелейшей экономической ситуации.

Мы закупаем у России бензин, нефть, уголь, комплектующие... Сейчас решается вопрос объединения денежных систем. Если это произойдет, то намного легче будет тогда решать наши проблемы. Объединения рублевой зоны ждут все.

В этом году завершается перегруппировка ВС. В апреле они будут по боевым частям составлять около 85 тысяч личного состава, плюс военкоматы и училища — около 15 тысяч. Армии мы переформировали в корпуса, дивизии — в бригады.

**— Приходится часто слышать о житейских проблемах офицеров, которые ныне увольняются в запас, да и те, которые служат, неудовлетворены своим положением...**

— Мы стремимся по возможности решать эти проблемы. Было принято постановление об увольнении офицеров после 15 лет выслуги. Второе: те, кто отслужил 15 лет и уволен по сокращению, обеспечиваются квартирами. Уволено более 15 тысяч. Сейчас бесквартирных около 9 тысяч. Так что проблема с жильем не скоро будет снята.

К сожалению, престиж армии далеко не тот, что прежде.

Мы и сегодня теряем молодежь. Нужно защитить материально тех, кто служит. Человек-защитник был и остается государственным человеком.

В войсках обстановка последнее время довольно спокойная. Что я имею в виду? Кто хотел — уехал в Россию, на Украину... Успешно, хотя не без огромных усилий, решаются вопросы боевой подготовки и боевой готовности. Надо, чтобы танкист стрелял, водил, летчик — летал, а офицеры, прапорщики и солдаты меньше испытывали нужд.

**— Товарищ генерал-полковник, расскажите, пожалуйста, о наших взаимоотношениях с армиями стран СНГ и государств дальнего зарубежья.**

— Наши офицеры уже сегодня проходят обучение в Германии, Франции и других странах. Сейчас создается штаб по координации военного сотрудничества. Цель его — помочь строить свои ВС в рамках системы коллективной безопасности. Мы заявили о присоединении к системе коллективной безопасности СНГ. Сейчас надо, чтобы договор был ратифицирован Верховным Советом. Для нас это имеет особое значение и мы поддерживаем двусторонние отношения, ищем пути координации усилий в военной сфере с Россией, особенно в вопросах противовоздушной обороны.

**— Наверное, один из больных вопросов в армии — "дедовщина". Что вы можете сказать об этом?**

— "Дедовщина" — позорное явление. Раньше мы видели причины в комплектации ВС, мол, люди призывались на службу из всех республик бывшего Советского Союза, потому и процветали неуставные взаимоотношения. Оказалось, что это далеко не так. Сегодня в частях и подразделениях остались все земляки, только белорусы. Однако, к большому сожалению, позорные факты неуставных взаимоотношений имеют место и они не так уж редки.

Причина заключается в том, что в результате сложной обстановки в стране, неудовлетворительной воспитательной работы с молодежью в армию приходит много юношей, склонных к правонарушениям. Судимых в армию приходит около 20 процентов, т.е. каждый пятый. Заброшено патриотическое воспитание в школах, техникумах, институтах... Мое мнение: без патриотов, без патриотического воспитания не будет армии. Мы принимаем меры, чтобы все, что было раньше в школах, возродить, особенно сейчас, в канун 50-летия освобождения Беларуси от фашистских захватчиков и 50-летия Великой Победы.

**— Эту воспитательную работу с молодежью раньше плодотворно вели фронтовики, бывшие подпольщики и партизаны, ветераны армии и флота... Что-то слабо нынче слышен их голос? Какая забота о них проявляется со стороны Министерства обороны?**

— Действительно, они стали редкими гостями в учебных заведениях, в трудовых коллективах... Сказывается общая обстановка, недостаточное внимание к воспитанию гражданина-патриота. Теряем то, что приобретено годами...

На начало 1992 года в республике было около 90 тысяч военных-пенсионеров. Скоро их будет более 102 тысяч, с членами семей — около 300 тысяч. Это в основном те, кто по постановлению Совета Министров должны обеспечиваться бесплатным лечением, путевками в санатории, дома отдыха и так далее.

В этом вопросе также немало проблем. Сегодня лечение одного больного в реанимации обходится в один миллион рублей в день, а простого — 300 тысяч в день. За закупку антибиотиков мы рассчитываемся долларами.

Я привожу эти цифры, чтобы вы представили наши проблемы и сложности. Хорошо, что мы почти всегда находим поддержку у правительства. Отрадно, что и Верховный Совет, большинство его депутатов также поддерживают нас.

С 1 апреля 1994 года будет очередной перерасчет пенсий для всех, в том числе и для военнослужащих.

В соответствии с принятым в декабре прошлого года постановлением Совмина намечено расширить ряд учреждений для отдыха и лечения военнослужащих и военных-пенсионеров. Финансироваться эти мероприятия будут за счет средств Министерства обороны, выделяемых из республиканского бюджета.

Лепельский военный санаторий МО будет насчитывать 1.000 мест. Программа рассчитана на 4-5 лет. В Павлиновский госпиталь на 250 человек к концу следующего года мы планируем принять первых ветеранов войны, инвалидов. Турбазу "Ждановичи" переоборудуем в дом отдыха МО в будущем году. Закупаем оборудование для хирургического корпуса в центральном госпитале. Как видите, делается для ветеранов многое, и такая работа будет продолжаться.

Остается надеяться, что и ветераны, все граждане республики не будут в стороне от задач дальнейшего совершенствования наших Вооруженных Сил.

*Беседовал Михаил ЛАГУН, подполковник запаса.*

*Аляксандр Мікалаевіч Драздоўскі і яго жонка Любоў Сцяпанаўна жывуць у вёсцы Баяры Маладзечанскага раёна. Яны — фермеры. Ужо два гады. У іх гаспадарцы 11 гектараў зямлі, якая ў мінулым годзе дала па 44 цэнтнеры збожжавых з гектара. Бульба ўрадзіла крыху горш — па 170 цэнтнераў. Але гэта таксама добра.*

*Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.*

## ВЕТЕРАНЫ СОЗДАЛИ БЗВ?

**В Минске по инициативе и при содействии БНФ проведен учредительный съезд по созданию "Беларускага дэмакратычнага згуртавання ветэранаў". Собралась группка людей и объявила себя новой организацией. Кого они представляют? Зачем? Для каких целей?**

Ответы на эти вопросы содержатся в заявлении президиума республиканского Совета организации ветеранов Республики Беларусь — единственно законной, зарегистрированной в Министерстве юстиции общественной организации, действующей в соответствии со своим уставом. Именно она, и никакая другая, на законных основаниях представлена в Верховном Совете, в местных Советах народных депутатов. Именно по ее инициативе принят ряд важнейших законов, защищающих права и льготы ветеранов, в том числе Закон "О ветеранах", законы о пенсионном обеспечении.

Многие ветераны в Верховном Совете и местных Советах народных депутатов активно и принципиально защищают интересы и права старшего поколения советских людей, участвуют в общественной, политической, экономической и культурной жизни республики, в патриотическом воспитании населения.

Зачем же в таком случае новая, "дэмакратычная" организация? Это необходимо, подчеркивается в заявлении, БНФ и примыкающим к нему националистическим элементам. Им очень уж не нравится требование не допустить в Беларуси распространения фашистской пропаганды и реабилитации пособников фашизма, чинивших на нашей земле зверства в годы гитлеровской оккупации.

Подлинные ветераны активно выступают за пересмотр символики — бело-красно-белого флага и герба "Погоня", которые использовались фашистами, полицаями и их карательными организациями против белорусского народа в годы Великой Отечественной войны, и надеются, что Верховный Совет вернется к этому вопросу и исправит свою ошибку.

Цель новоявленного "дэмакратычнага згуртавання" ясна, говорится далее в заявлении, — расколоть белорусское общество, все ветеранское движение. Эти силы уже пытались расколоть армию. Попытка эта провалилась.

Президиумом республиканского Совета названа еще одна причина создания "згуртавання". Предстоит борьба за голоса избирателей на выборах президента, нового состава Верховного Совета и местных органов власти. БНФ и его сторонникам очень нужны голоса избирателей, особенно из числа старшего поколения.

Президиум республиканского Совета организации ветеранов войны, труда и Вооруженных Сил решительно осудил эту попытку расколоть организацию ветеранов и призвал всех людей старшего поколения давать отпор националистическим поползновениям.

*Василий ПРОКОПЬЕВ.*

## КЛІЕНТ ДАРАЖЭЙШЫ ЗА ІНФЛЯЦЫЮ

**За дваццаць гадоў існавання аўтамабільнага парка № 15 гор. Дзяржынска транспартнікам ніколі яшчэ не было так складана працаваць, як зараз. Якое ж тут задавальненне, калі кіруеш зношанай машынай? Большая палавіна ўсяго машыннага парка падлягае спісанню, а новыя сродкі з-за дарагоўлі не набываюцца.Раней вадзіцель ведаў: праз пяць год атрымае "абноўку". Цяпер жа на адным аўтамабілі можна дапрацаваць да пенсіі.**

— Капітальны рамонт, які неаднойчы выручаў вадзіцеляў, таксама ўжо нам не па кішэні, — гаворыць начальнік эксплуатацыі Віктар Лойка. — Аднаўленне адной машыны каштуе ад 18 да 24 мільёнаў рублёў. Гомельскі аўтарамонтны завод якасна выконвае заказы на працягу трох тыдняў, аднак патрабуе папярэдняй аплаты. Пакуль адмаўляемся ад паслуг рамонтнікаў. Усе грошы ідуць на паліва ды на запасныя часткі.

З набыццём паліва асаблівых клопатаў мясцовая аўтатранспартная гаспадарка не мае. Ім забяспечвае Мінская нафтабаза, што ў суседнім Фаніпалі. Былі б толькі грошы. Доўг нафтабазе ў 30-40 мільёнаў рублёў стабільна "вісіць" на гаспадарцы. Бо як толькі разлічацца за раней узятае паліва, тут жа просяць яго ў доўг, паколькі няма сродкаў адразу зрабіць аплату. За тону дызельнага паліва неабходна зараз выкладваць 2 мільёны ,200 тысяч рублёў. Ім запраўляюць МАЗы, якія прыносяць асноўны даход /пасажырскія аўтобусы з"яўляюцца стратнымі/.

— І тут перакрываюць кісларод,— уступае ў размову дырэктар парка Леанід Баброўскі. — На дзень нам неабходна не менш тоны дызпаліва. Вымушаны час ад часу павышаць тарыфы за выкарыстанне нашых машын, што адбівае кліентуру. Пакуль жа рэнтабельнасць грузавых перавозак складае 30 працэнтаў. Напрыклад, даходы аўтапарка за два месяцы гэтага года перавысілі 393 мільёны рублёў. Каб і далей рухацца па шашы, для нас галоўнае — заказы.

А кліентура ў гаспадаркі вялікая і пастаянная: торфабрыкетны завод, дарожна-будаўнічае ўпраўленне, гарадское спажывецкае таварыства, хлебазавод, мехкар"ер. Аўтатранспартнікі ідуць насустрач заказчыкам, чакаюць, калі тыя змогуць разлічыцца за паслугі. Фінансавае становішча ва ўсіх незайздроснае. Толькі заслаўскія дарожнікі вінны парку 28 мільёнаў рублёў. Можна, канечне, грошы спагнаць. Ды страціш выгаднага кліента, які ўсё ж даражэйшы за інфляцыю.

Нягледзячы на стратнасць пасажырскіх перавозак , тут за апошні час скарацілі аўтобусныя маршруты толькі на трэць. Амаль у 400 населеных пунктаў раёна заходзяць аўтобусы.

— Падаражанне кошту праезду /30 рублёў за кіламетр/ зменшыць пасажырапаток, — працягвае дырэктар. — Мы нічога добрага ад гэтага мець не будзем. Рызыкнулі пусціць маршрутнае таксі, спачатку па выхадных днях, а потым і ў будні. Паездка ў "экспрэсе", разлічаным на 27 месц, каштуе 500 рублёў. Адкрываем таксама камерцыйны аўтобусны маршрут Дзяржынск—Рубяжэвічы. Рэнтабельнасць гэтых маршрутаў прадугледжана на ўзроўні не менш дзесяці працэнтаў. Разлічваем на тое, што яны дапамогуць хоць у нейкай меры "падцягнуць" звычайныя пасажырскія перавозкі, ад якіх не збіраемся адмаўляцца. Тым больш што іх часткова фінансуюць рай-і гарвыканкомы. Саветы дабіліся права атрымання паліва для маршрутных аўтобусаў па фіксаванай цане.

Вытворчыя плошчы парка дазваляюць трымаць і абслугоўваць значна большую колькасць рухомага саставу. Будаўніцтва майстэрань і гаражоў разлічвалася пад яго павелічэнне, на што цяпер не варта спадзявацца. Адрамантаваць бы старыя ЛАЗы, МАЗы, ПАЗы , заправіць іх і знайсці кліента. Такімі сціплымі марамі жывуць дзяржынскія транспартнікі.

*Наталля ШМІДТ.*

■ Вясковыя вечары

## "АГЕНЬЧЫК", ЯКОМУ СВЯЦІЦЬ

У калгасе "Шлях Леніна" Маладзечанскага раёна добра разумеюць сутнасць народнай прымаўкі: якая справа, такая і слава. Нягледзячы на цяжкі час, эканамічную неразбярыху,кіраўніцтва гаспадаркі знайшло магчымасць падтрымаць настрой пажылых калгаснікаў, якія і сёння на сваіх плячах нясуць асноўны цяжар хлебаробскіх клопатаў.

Кіраўнік гаспадаркі Міхась Есмантовіч, хоць і малады, але тым часам прыжыўся тут і аўтарытэт заваяваў не салодкімі словамі ды абяцаннямі. Ён зразумеў галоўнае: людзям патрэбна сацыяльная абарона, павага да іх годнасці. Таму і паклікаў на "агеньчык" усіх пенсіянераў у калгасны клуб, каб падзяліцца планамі на заўтрашні дзень, прывеціць добрым словам тых, хто мае права на адпачынак, параіцца з імі...

Трэба зрабіць агаворку: калгас "Шлях Леніна" ў гэты складаны перыяд хоць і з цяжкасцю, але спраўляецца са сваімі клопатамі. Тут шмат значыць асабістая энергія старшыні. Ён і яго каманда робяць усё, каб людзі былі з хлебам, каб гаспадарка магла з дзяржавай разлічыцца.

На "агеньчык" з"ехаліся сівыя дзядзькі, паважнага ўзросту жанчыны, вопытныя хлебаробы і жывёлаводы — Васіль Рудзь, Зося Рудая і многія іншыя. Знайшліся сродкі на падарункі і на стол для працаўнікоў. Запрасілі хор з вёскі Мазалі суседняга калгаса. Ды і мясцовыя артысты не драмалі. Рэй вяла намеснік старшыні калгаса Людміла Карпіцкая. Яна і рыхтавала вечарыну...

Тут не было афіцыйных прамоў, не падводзіліся вынікі, але кожны прысутны адчуваў, што за сталом ён не лішні. Трэба было чуць і бачыць, як галасіста спявалі народныя песні бабулі, дробна выбівалі з дзядамі польку "Янку", кракавяк. З імі вадзіў рэй і старшыня. Вочы ў кабет іскрыліся ад радасці, яны наперабой расказвалі, што Міхаіл Міхайлавіч хоць і малады, ды ўдалы, добры гаспадар.

Кожны пенсіянер атрымаў каштоўны падарунак, пачуў цёплае слова ў свой адрас. І многія сціпла, без пахвальбы запэўнівалі праўленне, што з задавальненнем папрацуюць яшчэ — хто трактарыстам, хто паляводам, свінаркай, даяркай.

*Сымон БЕЛЫ.*

## ■ З юбілеем!

**26 сакавіка былыя і цяперашнія выхаванцы Сенніцкай музычнай школы сабраліся разам, каб адзначыць юбілей сваёй альма-матэр. За гады існавання тут падрыхтаваны больш як 500 выпускнікоў. Дарэчы, 136 з іх сталі прафесійнымі музыкантамі. Некаторыя ўжо самі працуюць выкладчыкамі, дапамагаюць дзецям, апантаным музыкай, пазнаць яе таямніцы і хараство. Гэта адна са старэйшых сельскіх музычных школ не тое што ў вобласці — у рэспубліцы.**

Зазірнём туды, каб бліжэй пазнаёміцца з калектывам.

— У верасні 1953 года тут быў адкрыты філіял адной з гарадскіх школ, — расказвае намеснік дырэктара Леанід Мікалаевіч Гравовіч. — Статус самастойнасці набылі значна пазней. Ну а 24 мая 1960 года са школай развіталіся першыя шэсць выпускнікоў. З гэтай шасцёркі найбольшага поспеху дабіўся Мікалай Васільевіч Шыманскі, які цяпер працуе ў Акадэміі музыкі. Нярэдка ён заходзіць і ў родную школу.

Шмат гадоў аддалі рабоце з дзецьмі Уладзімір Фёдаравіч Богдан і Любоў Барысаўна Зайцава. Дарэчы, Любоў Барысаўна працуе выкладчыцай па класу фартэпіяна і па сённяшні дзень. З 1980 года наш калектыў узначальвае Аляксей Пятровіч Хамяк, для якога музыка — жыццё. Ёсць у нас і маладыя педагогі. Напрыклад, Наталля Іванушкіна і Таццяна Арцёмчык працуюць у школе не так даўно, але зарэкамендавалі сябе з самага лепшага боку. Іх праца дае плён. Выхаванцы заяўляюць аб сабе, што называецца, у поўны голас на самых розных конкурсах. У прыватнасці, Людміла Кіслушка стала пераможцай конкурсу юных піяністак сярод музычных школ раёна. Няблага дзяўчына выступіла і на абласным конкурсе ў Мінску.

— Леанід Мікалаевіч, любое мастацтва патрабуе вялікага цярпення і працавітасці, часу і сродкаў. Музыка, вядома, не выключэнне. А тут яшчэ і жыццё не цукар...

— Згодзен. У апошні час назіраецца не вельмі прыемная тэндэнцыя: зніжаецца колькасць наведвальнікаў у канцэртных залах. Але, тым не менш, у нас ёсць таленты. Напрыклад, нашы выхаванцы з"яўляюцца лаўрэатамі рэспубліканскіх конкурсаў сярод юных музыкантаў. Гэта Давід Шышко /духавыя інструменты/, Віктар Радзюкевіч /гітара/.

Праўда, эканамічныя цяжкасці не лепшым чынам адбіваюцца і на мастацтве. На маю думку, школа павінна мець відэакамеру ці відэамагнітафон, каб дзеці мелі магчымасць паглядзець на сябе з боку. На жаль, гэта толькі мара. Не кожныя бацькі могуць купіць і музычныя інструменты для свайго дзіцяці. Што зробіш, калі самы просты баян каштуе амаль два мільёны, фартэпіяна — тры з палавінай — чатыры. Балазе, ва ўсіх нашых вучняў дома ёсць музычныя інструменты. Вядома, без хатніх заняткаў цяжка засвоіць праграму. Тут трэба, лічу, праяўляць зацікаўленасць і бацькам.

На дзяцей жа кладзецца вялікая нагрузка, паколькі трэба займацца і ў агульнаадукацыйнай школе. Пэўны час мы змагаліся за пяцідзёнку, але гэта не мела поспеху.

— Ці падтрымлівае вас калгас?

— Так. Нядаўна мы выступалі на справаздачным сходзе гаспадаркі. Калгаснікам вельмі спадабалася наша выступленне. Падтрымліваем таксама цесную сувязь і з Сенніцкім Домам культуры. З 1980 года нашы выкладчыкі сталі ўдзельнічаць у народным хоры і аркестры народнага ансамбля танца "Сенніца". З ім летась пабывалі ў Італіі.

— Не шкадуеш, што ў свой час вырашыў заняцца музыкай? — гэтае пытанне задаю лаўрэату Рэспубліканскага конкурсу імя Іосіфа Жыновіча Віктару Радзюкевічу.

— Ні ў якім разе. Я вельмі люблю музыку. Мару паступіць у музычнае вучылішча.

— Музыка не перашкаджае школьным заняткам?

— Не. Наадварот, дапамагае.

*Юрый ЛОЙКА.*

**На здымках:** выкладчыца школы Марына Аляксандраўна **РУДЗЬ**; ансамбль народнай музыкі толькі пачынае свае першыя крокі на сцэне /кіраўнік **Л.М.ГРАКОВІЧ**/; музычная паўза ў выкананні **Віктара РАДЗЮКЕВІЧА.**

*Фота Аляксандра РУЖЭЧКІ.*

## ЧАРАЎНІЦА-МУЗЫКА З"ЯДНАЛА ПАКАЛЕННІ







## ■ Прайсці міма?

*И матери сердце,*
*Упав на порог,*
*Спросило его:*
*"Не ушибся, сынок?"*

***Памятаеце гэтыя радкі паэта? Сумная тая гісторыя расказвае, як сын прынёс у ахвяру каханню да жанчыны матчына сэрца. Алегорыя, зразумела. Але які назіральны, празорлівы паэт! Ён убачыў не адзін асобна ўзяты факт — з"яву. Страшную ў сваёй жорсткасці. На вялікі жаль, не раз і не два даводзілася і мне сутыкацца з выпадкамі, калі дзеці "тапталі" сэрца маці, здраджвалі яе вялікай Любові.***

# АДЗІН. АДНА. АДНЫ,

## ці Старэчыя слёзы

Чужыя людзі прыбіралі і праводзілі ў апошні шлях Ф.Е.Марон са Старых Дарог. Калі пераапраналі жанчыну, "вохнулі": у яе на поясе была прывязана хустачка з грашыма. Відаць, збірала-зберагала для дзяцей, хацела дапамагчы ім у цяжкі час. А яны нават не прыехалі, каб сказаць апошняе "даруй". Праўда, родны сын жанчыны жыве далёка, у Магнітагорску. Другі /прыёмны, якога яна гадавала-песціла як свайго/ — зусім не на краі свету: у Мінску.

— Пазванілі яму раз,— расказвае загадчыца аддзялення сацыяльнай дапамогі на даму Старадарожскага раённага аддзела сацыяльнага забеспячэння Т.Палякова,— папрасілі: прыязджайце, бабуля памірае. Паабяцаў. Раніцай жанчыны не стала. Звонім. "Захварэў",— адказвае.

Затое "раптоўна" ачуняў, калі настаў час дзяліць дом.

Чамусьці мне ўяўляецца, што ў апошнія свае хвіліны жанчына думала пра іх, сыноў. Успаміна ла першыя словы і крокі, першы школьны дзень. Мо было гэта зусім не так — і думала яна аб іншым. Аднак, упэўнена, горкія былі тыя думкі, не сагрэтыя прысутнасцю роднага чалавека. Не дай вам Бог такога вось канца!

Цікава, а як хадзілася потым сынам Ф.Е.Марон па яе хаце? Не грызла сумленне? Мяркуючы па іншых падобных сітуацыях, наўрад ці. Ніякіх яго "ўкусаў", напрыклад, не адчувае сын Вольгі Спірыдонаўны Міхалькевіч з вёскі Боркі.

Калі мы з Т.Паляковай і яе намеснікам А.Жукавец зайшлі ў хату жанчыны, адчулі жудасны холад. Бабуля ляжала, прыкрытая нейкім рыззём. І не варушылася, быццам нежывая.

Раптам рыпнулі дзверы ў суседнім пакоі. Мы ўбачылі сына Вольгі Спірыдонаўны, які, як высветлілася, нядаўна прыехаў з Мінска.

— Чаму ў печы не запаліце? — запыталіся мы ў яго. І пачулі ў адказ ...

Па-першае, няма дроў. Дзяржава не паклапацілася, а яна абавязана гэта рабіць у адносінах да сваіх пенсіянераў. Па-другое, аказалася, развažаем, як ... Зянон Пазняк. Потым мы спрабавалі "звязаць адной нітачкай" Вольгу Спірыдонаўну, дровы і лідэра БНФ. Нічога не атрымалася.

Самае горкае і крыўднае, што людзі накшталт сына В. Міхалькевіч і сапраўды ўпэўнены: абавязана дзяржава. І дзяцей гадаваць, і старых даглядаць. Яны і не задумваюцца над пытаннямі: а што абавязаны я сам, чаго ад мяне патрабуе покліч продкаў?

Чатырох сыноў выгадавала Вольга Спірыдонаўна. /Аднаго, дарэчы, з Полацка, у вёсцы не бачылі ўжо гадоў пятнаццаць/. А "выцягваць" жанчыну з цяжкага становішча давялося работнікам райсабеса. І з дровамі дапамаглі.

Балюча, паверце, глядзець на гэтых старых. У хаце, напрыклад, сям"і Цагойка са Старых Дарог я /як ні спрабавала/ не змагла стрымаць слёзы. Сціскалася ад жалю сэрца, калі глядзела на добры, паважны твар 87-гадовага Сямёна Іванавіча /па шчоках дзядулі таксама цяклі слёзы/. На яго сляпую жонку — Таццяну Пятроўну. На адзінокіх старых, што выгадавалі траіх дзяцей. Дачка — у Барысаве. Адзін сын — у Мінску. Другі штодня ходзіць каля роднай хаты. На працу, у сваю ПМК-73.

—Раней, — тлумачыць Т.Палякова,— сацыяльныя работнікі абслугоўвалі такія сямейныя пары. Але потым Міністэрства сацыяльнага забеспячэння рэспублікі і аблвыканком прынялі адно рашэнне. У адпаведнасці з ім з састарэлых мужа і жонкі / калі ў даным населеным пункце ёсць родныя, па закону абавязаныя іх даглядаць/ за сацыяльнае абслугоўванне бярэцца плата ў памеры 7,5 працэнта пенсіі. З кожнага.

Рашэнне — добрае, справядлівае. Для добрых людзей. А як быць з бессаромнымі? Колькі спрабавалі, скажам, работнікі райсабеса размаўляць з Цагойкам-сынам: і сароміліі, і папярэджвалі. Аднак меры "грамадскага ўздзеяння" сёння, падобна, нікога не палохаюць. Амаль не завітвае сын да бацькі і маці. Не хвалюе яго, што яны ядуць, як жывуць?

Але зноў яно — вялікае матчына сэрца, здольнае ўсё дараваць! Таццяна Пятроўна сцвярджае : "Добрыя ў нас дзеці. Сын разы са два ў тыдзень заходзіць, усё прыносіць".

У нас не стае сіл нешта запярэчыць у адказ на яе наіўную, прастадушную хлусню. Гэта робіць Сямён Іванавіч, кінуўшы: "Слаба дапамагае".

— Дасць Бог, як-небудзь дажывём. Мала засталося,— быццам рэха, тут жа адгукаецца бабуля.

Так-так, толькі на дзяржаву ды на Бога застаецца спадзявацца пры такіх вось дзецях. Ды яшчэ на райсабес, работніцы якога вунь і на гэты раз паабяцалі "падкінуць" мужу і жонцы Цагойкам чатыры кілаграмы гуманітарнага рысу.

Дарэчы, той самы райсабес ды раённы фонд сацыяльнай дапамогі малазабяспечаным грамадзянам, які ўзначальвае намеснік старшыні райвыканкома А.Міхайлаў, паклапоцяцца і пра дровы для старых, і пра бульбу, і пра рамонт жылля. Не забываюць і ў святы. Урачы Дражненскай бальніцы заўжды гатовыя прыняць адзінокіх бабуль і дзядуляў, каб падлячыць, падкарміць, падтрымаць.

А інакш я, напрыклад, і не ведаю, да чаго б дажылася тая ж Фядора Якаўлеўна Турава з вёскі Шапчыцы. Калі работнікі райсабеса зайшлі наведаць яе, яна была нямытая, нячэсаная і басанож — на нозі не было чаго абуць. Дачка-п"яніца, што жыве ў гэтай жа вёсцы, прысвойвала бабуліну пенсію. Для гэтага нават фатаграфію з пашпарта маці выразала. Забіралі Фядору Якаўлеўну, каб адвезці на жыццё-быццё ў Нясвіжскі дом-інтэрнат, дык жанчына праісламаліла:"Вязіце, я згодная. Толькі дачцэ нічога не кажыце". Баялася.

І зноў — ніякага пакарання. Хіба толькі людская пагалоска асудзіць ...

*Наталля ТУМАР.*
*Старадарожскі раён.*

**АД АЎТАРА.** Матэрыял ужо быў падрыхтаваны да друку, калі ў Старадарожскім райсабесе я даведалася: Цагойка-сын выказаў намер клапаціцца пра бацькоў па-сапраўднаму. Сумленне прачнулася? Даведаўся пра візіт журналіста? У любым выпадку — дай Бог. Глядзіш, хоць дваім састарэлым стане жыць на свеце лягчэй ды цяплей.

## ХАТНІ ЭКРАН

### 12 красавіка, аўторак

***Беларускае тэлебачанне***

17.55. Зачытайце маё пісьмо...
18.00. Дзелавая хроніка.
18.10. Абласныя навіны (Віцебск).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Крымінальная хроніка.
19.15. Эканамічная хваля. Прамая лінія.
19.55. Мост.
20.25. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пад купалам Сусвету.
21.45. "Ніхто, акрамя цябе". Тэлесерыял.
22.30. Надвор'е.
22.40. НІКа.
22.55. I Міжнародны джазавы фестываль "Мінск-94".

***Канал "Астанкіна"***

16.10. 440 герц.
16.50. Азбука ўласніка.
17.25. Юрый Гагарын. Грамадзянін свету.
17.40, 20.35. Надвор'е.
17.45. "Пецярбургскія тайны". 1-я серыя.
18.45. За радком пратакола.
18.55. Тэма.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. Бамонд.
21.00. Залаты шлягер.
21.45. "Справа".
23.30. MTV.

***Канал "Расія"***

16.50. М-трэст.
17.05. Чалавек справы.
17.35. Свята кожны дзень.
17.45. Прасцей простага.
18.40. Фільм-прэм'ер.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара".
20.25. Райская асалода.
21.00. Святочны канцэрт з Крамлёўскага Палаца.
22.40. Аўтаімгненне.
22.45. Зоркі гавораць.
22.50. Спартыўная карусель.
22.55. Працяг святочнага канцэрта.

### 13 красавіка, серада

***Беларускае тэлебачанне***

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. Надвор'е.
8.30. Пяць хвілін на жарты.
8.35. "Спявае Юрый Антонаў".
9.00. Тэлебачанне — школе. "Старонкі незабыўнай даўніны". У.Караткевіч.
9.40. "Ніхто, акрамя цябе".
10.25. Аэробіка.
11.00. Тыдзень Ізраільскага тэлебачання.
12.00. "Мілы гай". Фільм-канцэрт.
12.10. Воднае пола. Чэмпіянат Беларусі.
12.55. "Спецперасяленцы". Дак. фільм.
13.30. Навіны (з сурдаперакладам).
13.40. "Печкі-лавачкі". Маст. фільм.
15.20. "Парк культуры".
15.25. Відзьма-нявідзьма.
16.30. "Добры дзень! Сядайце!" Сустрэча праз 10 год выпускнікоў СШ № 90 г.Мінска.
17.00. "Лёгкі хлеб".
17.10. Тыдзень Ізраільскага тэлебачання.
17.15. Праграма з удзелам майстра пантамімы Х.Розена.
17.40. Гаспадар. Як зберагчы будучы ўраджай?
18.10. Абласныя навіны (Гомель).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Карамболь. Ток-шоу з удзелам артыста Сямёна Фарады.
19.35. ТА "Рэха".
19.55. Тыдзень Ізраільскага тэлебачання.
20.25. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пад купалам Сусвету.
21.45. "Ніхто, акрамя цябе". Тэлесерыял.
22.30. Надвор'е.
22.40. НІКа.
22.55. "Рок-айленд-шоу" з удзелам групы "Кар-Мэн".

***Канал "Астанкіна"***

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.20. Навіны.
8.20. Сарока.
8.40. "Пецярбургскія тайны". 2-я серыя.
9.40. Клуб падарожнікаў.
10.30. Джэм.
11.20, 22.15. Прэс-экспрэс.
11.30. "Малітва Сергію".
14.25. Прадпрымальнік.
15.20. "Прыгоды Тома Соера".
15.50. Джэм.
16.20. "Лятаючы дом".
16.50. Загадка СБ.
17.25. Міждзяржаўная тэлерадыёкампанія "Мір".
17.40. Дакументы і лёсы.
17.45, 20.35. Надвор'е.
17.50. "Пецярбургскія тайны". 2-я серыя.
18.50. Прэм'ера дак.фільма "Руская рулетка Мікіты Хрушчова". 1-я серыя.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. Замак мастацтваў.
21.20. Футбол. Ліга чэмпіёнаў.
23.30. Ліга чэмпіёнаў.

***Канал "Расія"***

6.00, 10.00, 15.00, 19.00, 22.20. Весткі.
8.00. Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.25. "Сланяня-хвалько". Мультфільм.
8.35. "Санта-Барбара".
9.25. Ранішні канцэрт.
9.40. Сялянскае пытанне.
15.50. Там-там навіны.
16.10. Новая лінія.
16.55. Рубяжы.
17.10. "Жанчыны свету".
17.40. Здорава жывеш.
17.55. Свята кожны дзень.
18.10. L-клуб.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара". Тэлесерыял.
20.25. Рэпарцёр.
20.40. Ніхто не забыты.
20.45. "Настальжы".
21.20. Зала чакання.
22.40. Аўтаімгненне.
22.45. Зоркі гавораць.
22.55. Экран крымінальных паведамленняў.
23.05. "Пейзаж з мэбляй".

## 8 канал

### 12 апреля, вторник

18.00 Объявления. Реклама.
18.05 Мультсериал "Ищейки". Мультфильм "Удачливый Робин Гуд".
18.30 Музыкальная программа.
19.00 Телесериал "Лабиринт правосудия". "Электрический стул".
19.50 Студия "ИНТЭКС" представляет... "Новости".
20.00 Мультхитпарад.
20.40 Семейный круг.
20.50 Многосерийный фильм "Судьба". 49 серия.
21.30 Интервью без вопросов.
21.40 Художественный фильм "Учитель танцев".
23.05 Музыкальная программа.
Рекламные объявления юридических лиц принимаются по факсу: 27-28-03.
1 слово — 1 доллар США.

### 13 апреля, среда

18.00 Объявления. Реклама.
18.05 Многосерийный фильм "Карусель". Мультфильм "Папай-Золушка".
18.30 Музыкальная программа.
19.00 Полицейский сериал "Хилл Стрит Блюз". "Опять Фьюкс".
19.50 Журфак БГУ представляет...
20.00 Домашний врач.
20.35 Телесериал "Швейцарские Робинзоны". 12 серия.
21.25 Музыкальная программа "Джо Дассен".
22.25 Дела насущные.
22.35 Художественный фильм "Индивидуальный подход" из серии "Мошенники".
Информация, объявления частных лиц для прочтения диктором принимаются по адресу: Минск, К.Маркса-50. 1 слово — 0,5 доллара США.

# СВЕДЕНИЯ

## об объектах областной собственности, подлежащих приватизации во II квартале 1994 года

| | | |
|---|---|---|
| Наименование объекта приватизации | | Крупский плодоовощной завод |
| Адрес объекта приватизации | | Минская обл.,г.Крупки, ул.Московская, 1 |
| Площадь земельного участка, занимаемого объектом, кв.м | всего | 26.250 |
| | в т.ч. застроенная | 4.200 |
| Вид деятельности объекта приватизации, укрупненная номенклатура выпускаемой продукции | | Производство горчицы столовой, пищевых концентратов, безалкогольных напитков, других продовольственных товаров |
| Планируемые сроки приватизации | | II квартал 1994 года |
| Орган, осуществляющий приватизацию данного объекта, и его местонахождение | | Минскоблгосимущество. г.Минск, ул.Чкалова, 5 |
| Сроки предъявления претензий к приватизированному объекту | | Месяц со дня опубликования |
| Предполагаемый способ приватизации | | Выкуп арендуемого имущества арендным предприятием |
| Предполагаемая оценочная стоимость государственного имущества на момент оценки, млн.руб. | | 593,0 |
| Стоимость основных фондов, млн.руб. | всего | 592,5 |
| | зданий и сооружений | 457,5 |
| | машин и оборудования | 134,9 |
| | непроизводственных фондов | 0,1 |
| Начатые инвестиционные проекты, млн.руб. /незавершенное строительство/ | | нет |
| Наличие принадлежащих предприятию долей /паев, акций в активах других предприятий/, млн.руб. | | нет |
| Обязательства предприятия, млн.руб. | торговые | нет |
| | бюджетные | нет |
| Финансовое состояние объекта, млн.руб. на 1.01.94 г. | балансовая прибыль | 25,6 |
| | кредиторская задолженность | 370,5 |
| | дебиторская задолженность | 35,2 |
| Нематериальные активы, млн.руб. | | нет |
| Численность работающих человек | всего | 61 |
| | рабочих | 49 |
| | специалистов | 12 |

## ■ Пять соток

# Цветет первым



Первоцвет — так нередко называют садовые примулы за то, что зацветают самой ранней весной. Белые, желтые, оранжевые, розовые, красные и голубые цветки примул оживляют пока еще скромную окраску пробуждающегося к жизни сада. Но не только за это любят примулы — они неприхотливы, хорошо растут даже в тени, сроки их цветения различны, поэтому они длительное время украшают сад, и, кроме того, даже отцветшие примулы до самой поздней осени сохраняют красивыми свои листья.

Примулы легко размножаются семенами, которые в апреле высевают в ящики. В мае молодые растения высаживают на постоянное место. На следующий год они будут цвести.

Можно поступить и иначе: разделить на розетки понравившиеся вам растения. Лучше для этого использовать старые, трехлетние растения, так как примулы все равно полагается делить через каждые 3— 4 года.

Садовые примулы любят влажную,но легкую почву. Совершенно не переносят свежий навоз. На зиму примулы лучше присыпать торфом, чтобы они не пострадали от холода.

Примулы используют и для выгонки в зимнее время. Поздней осенью растения пересаживают в горшочки и хранят при нулевой температуре. В середине февраля их переносят в светлое помещение с температурой плюс 6 градусов, затем ее постепенно увеличивают до плюс 10 градусов.

Первое время поливают умеренно, с началом роста — более обильно.

### ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО ...

* *никелированные и серебряные изделия будут блестеть как новые, если их протереть шерстяной тряпкой, смоченной нашатырным спиртом*
* *грязный зонт чистят раствором воды и нашатыря / на один литр воды полстакана нашатырного спирта/*
* *нашатырным спиртом можно вывести пятна от йода*
* *кожаные пальто, сумки, чемоданы можно почистить раствором, состоящим из воды, мыла и нашатырного спирта, а затем протереть для блеска тряпочкой, смоченной касторовым маслом*
* *в растворе одной столовой ложки нашатырного спирта на ведро воды хорошо отбеливается белье*

**Спорт**

## ■ Футбол

# Гонка лідэраў

Чарговы тур чэмпіянату Беларусі па футболу ў першай лізе не ўнёс змен у групе лідэраў. Каманды, якія займаюць першыя пяць месц, дабавілі ў свой актыў па два ачкі.

Дынамаўцы Мінска, на рахунку якіх цяпер 30 ачкоў, гулялі ў гасцях з тарпедаўцамі Магілёва і перамаглі з лікам 2:0.

На адно ачко адстае "Дынама-93", якое таксама на полі саперніка выйграла ў бабруйскага "Фандока" — 1:0. Такі ж вынік зафіксаваны ў Салігорску, дзе "Шахцёр" саступіў клубу "Маладзечна" і ў Брэсце, дзе дынамаўцы прайгралі віцебскаму КІМу. Кімаўцы маюць 27 ачкоў і знаходзяцца на трэцім месцы. У маладзечанцаў 21 ачко і пяты радок у турнірнай табліцы. На ачко больш, а гэта чацвёртае месца, у магілёўскага "Дняпра", які на сваім полі нанёс паражэнне гродзенскаму "Нёману" — 2:1.

Вынікі астатніх матчаў: "Лакаматыў" /Віцебск/ — "Шыннік" /Бабруйск/ — 0:0, "Гомсельмаш" — "Будаўнік" /Старыя Дарогі/ — 3:1, "Тарпеда" /Мінск/ — "Ведрыч" /Рэчыца/ — 0:0.

Матчы наступнага тура пройдуць у бліжэйшы чацвер і пятніцу. Цэнтральнай у гэтым туры стане гульня мінскіх каманд "Дынама" і "Дынама-93". Яна адбудзецца 14 красавіка на гарадскім стадыёне ў Смалявічах.

**Спорт**

## ■ Прабегі

# Адкрылі сезон

Звыш двухсот аматараў бегу прынялі ўдзел у лёгкаатлетычным прабегу, які праходзіў у Мінску і прысвячаўся адкрыццю сезона. Як і заўсёды, на старт выйшлі прадстаўнікі мінскіх клубаў аматараў бегу, госці з іншых гарадоў і раёнаў Беларусі. У заявачным пратаколе фігуравалі прозвішчы ўдзельнікаў, якія прадстаўлялі гарады і пасёлкі нашай вобласці — Маладзечна і Івянец, Барысаў і Капыль, Жодзіна і Салігорск.

Асноўная дыстанцыя — 10 кіламетраў. Сярод мужчын абсалютна лепшы вынік паказаў мінчанін майстар спорту Юрый Брандас — 31.03. Другім прызёрам стаў мінчанін Васіль Амялюсік і трэцім — Рыгор Нікалаеня з Капыля. Сярод пераможцаў у розных узроставых групах Аляксандр Рымашэўскі /Мінскі раён/, Уладзімір Шашмурын, Віктар Платонаў, Міхаіл Кандрашкін, Аляксей Князеў, Павел Сірэнка /усе — Мінск/, Анатоль Бачышча /Жодзіна/.

Дзесяць кіламетраў прабеглі і жанчыны. У абсалютным першынстве перамагла Галіна Барук з Гродна. Дзве магіляўчанкі — Алена Вакалова і Ала Задарожная паказалі другі і трэці вынікі.

Спонсарам прабегу выступіла фірма "Рыбак", якая ўстанавіла памятныя прызы і грашовыя прэміі для пераможцаў і прызёраў не толькі ў абсалютным першынстве, але і ва ўсіх узроставых групах.

*/Наш кар./.*

**Наш адрас:**
220013, гор.Мінск, вул.Б. Хмяльніцкага,10-А,паверх 9, рэдакцыя газеты "Мінская праўда".

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі —68-29-76, намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81, адказнага сакратара —68-26-48, сакратарыята —68-26-48, аддзелаў: Саветаў —68-26-38, адукацыі і культуры —68-25-76, сацыяльна-эканамічнага —68-25-43, грамадска-палітычнага —68-25-42, інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33, пісьмаў і маральна-бытавых праблем — 68-25-83, ілюстрацыі —68-25-03,68-26-48, камерцыйнага — 68-25-86, бухгалтэрыі —68-26-65.
Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў: у Барысаве —(8-277)5-15-61,Вілейцы —(8-271)5-57-86,Нясвіжы—(8-270)5-41-88, Салігорску — (8-210) 2-49-60.

*ЗАСНАВАЛЬНІК – Мінскі абласны Савет народных дэпутатаў, 220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4.*
"Мінская праўда"— орган Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

**Галоўны рэдактар М.А.ШЛОМА.**

Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.
Адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак нясуць іх аўтары.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Час падпісання ў друк: па графіку 22.10. Нумар падпісаны ў 22.00.
Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе "Мінскай праўды". Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.
*Тыраж 18800. Індэкс 63923. Зак.№39.*
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12